# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №21

## Сакавік 2018

## Нумар прысьвячаецца
## 100-годдзю абвяшчэньня незалежнасці
## Беларускай Народнай Рэспублікі

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №21, сакавік 2018* *ISSN 2291-4757*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Наступны 22-гі нумар часопіса выйдзе ў чэрвені 2018 года*

*Прадмова рэдактара*

**Дарагія чытачы!**
**Дваццаць першы нумар часопіса "Культура. Нацыя" (сакавік 2018, №21) прысьвячаецца 100-годдзю абвяшчэньня незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Рэдакцыя часопіса віншуе сваіх чытачоў з гэтай вызначальнай датай у жыцці беларускага народа, ад якой пачалася навейшая гісторыя беларускай дзяржаўнасці. Зычым Вам і Вашым сем'ям шчасьця, здароў'я, дабрабыту, цудоўнага настрою і добрых надзей на лепшаю будучыню для нашай Радзімы!**

Асноўныя матэрыялы гэтага нумара складаюць дакументы, выступленьні і іншыя падзеі, зьвязаныя са сьвяткаваньнем стагодняга юбілею беларусамі Аттавы. У той жа час, часопіс зьмяшчае цікавы артыкул вядомага краязнаўцы на Пастаўшчыне і Віцебшчыне, сп. Ігара Пракаповіча, прысьвечаны даследаваньню паходжаньня назвы беларускага мястэчка Сьвір. Не абышоўся і гэты нумар без цікавінак, пададзеных сп. Сяргеем Панізьнікам. На гэты раз наш славуты паэт падрыхтаваў каляндар беларускіх дат на 2018 год – гэты каляндар незвычайны тым, што падзеі адлюстраваныя ў ім, суправаджаюцца вершамі паэта Сяргея Панізьніка.

Два гады прайшло ад 6 лютага 2016 года, калі на старонках часопіса ўпершыню пабачыла сьвет "Стратэгія развіцьця беларускай нацыі". За гэты час яна значна папаўнялася і карэктавалася. Дастаткова сказаць, што ў абмеркаваньні "Стратэгіі" прынялі ўдзел больш за сотню чалавек, яна была апублікавана ў газетах "Наша Ніва", "Новы час", на вэб-сайтах Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы, "Мы – нацыя", "Наша зямля", "Пагоня" (Чэхія), Belarus News, абмяркоўвалася беларускай рэдакцыяй Польскага радыё (27 лютага 2016 года) і на "Белсаце" (12 сакавіка 2016 года). Тэкст "Стратэгіі" быў распаўсюджаны сярод удзельнікаў 7-га з'езда беларусаў сьвету (15-16 ліпеня 2017 года) і XIII-га з'езда Таварыства Беларускай Мовы (29 кастрычніка 2017 года, Мінск). "Стратэгія развіцьця беларускай нацыі" зьмешчана цяпер на асобнай старонцы вэб-сайта www.sakavik.net. Мы просім чытачоў прымаць удзел у далейшым яе ўдасканаленьні. Усе магчымыя праўкі, дадаткі, зьмены будуць уносіцца на гэту пастаянную старонку, а не будуць друкавацца ў кожным нумары часопіса, як гэта рабілася раней. Калі ласка, свае каментары і заўвагі дасылайце на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com
Прыемнага чытаньня.

Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса

*18 сакавіка 2018 года, Аттава*

Editorial ***(magazine“CULTURE, NATION”, March 2018, issue 21, p.5-6)***

The twenty-first issue of "Culture. Nation" (March 2018, №21) is dedicated to the 100th anniversary of the proclamation of independence of the Belarusian Democratic Republic. We congratulate our readers with this defining date in the life of Belarusian people, of which the newest history of the Belarusian statehood started.

The basic materials of this issue are documents, presentations, and images related to the celebration of the BDR centennial by Belarusians in Ottawa. At the same time, the magazine contains an interesting article by the well-known local historian in Pastavy and Vitebsk region, Igar Prakapovich, dedicated to research the origin of the name of Belarusian town Svir. No doubt, the issue is quite interesting in the calendar-2018 by Siargei Paniznik. This time, our famous poet prepared unusual Belarusian calendar where the events reflected therein, accompanied by verses of our famous poet.

Two years have passed since the magazine first published the "Strategy of Development of the Belarusian Nation." During this time, it was significantly enriched and improved.

Suffice it to say that in the discussion of the "Strategy" attended by over a hundred people, it was published in the newspapers "Nasha Niva", "Novy Chas", on the websites of the World Association of Belarusians "Backaushchyna", Belarusian Language Society, "We - the Nation", "Our land", "Pahonja” (Czech Republic), Belarus News, discussed by Polish radio (February 27, 2016) and "Belsat" (March 12, 2016). The text of the "Strategy" has been circulated among the participants of the 7th Congress of the Belarusians of the world (15-16 July 15-16, 2017) and 13-th Congress of the Belarusian Language Society (October 29, 2017).

"The Strategy of Development of the Belarusian Nation" is now available on a separate page of www.sakavik.net . We ask readers to take part in its further improvement. All possible changes, additions, changes will be made on this permanent page, but it will not be printed in each issue of the magazine as it was done before. Please your comments and remarks send to the address: chasopis.sakavik@hotmail.com

*Wishing you pleasant reading.*
*The magazine Founder and Editor,*
*Piotra Murzionak*
*March 18, 2018, Ottawa*

**Сяткаванне 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі ў Атаве**

11 сакавіка 2018 года, у цудоўны сонечны дзень, у Атаве адбылося святкаванне стагодняга юбілею абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Свята прайшло крыху раней за афіцыйную дату 25 сакавіка, і таму можна лічыць наша святкаванне было адным з найпершых у чарзе афіцыйных свят, прысвечаных гэтай важнай гістарычнай даце ў жыцьці беларускага народа.

Беларусы Атавы пачалі падрыхтоўку да свята яшчэ на пачатку снежня 2017 года, калі сябры Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады і сябры Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе распрацавалі план свята. Пасля нядоўгіх абмеркаванняў рашылі звярнуцца да дэпутата Канадыйскага парламента сп. Чандра Арыя, які прапанаваў нам правесці гэта свята ў адным з вельмі сімвалічных месц у Канадзе – у Цэнтральным будынку Канадыйскага парламента. Гэта прапанова падалася нам добрым цудам.

Атаўская група беларусаў мае даволі шмат актыўных, ініцыятыўных і адказных сяброў, якія ўклалі свае эмоцыі і сілы, каб свята атрымалася. Не магу ўтрымацца, каб не адзначыць гэтых людзей - Наталія Баркар, Інна і Аляксандр Каралькевічы, Ірэна і Ўладзімір Клімковічы, Аляксандра Логвін, Аксана і Сяргей Мазгавыя, Ірына і Ўладзімір Панчанкі, Галіна Рэзаіпур, Міхась Рыкаў, Галіна Туміловіч, Пётра Шварцман, Ўладзя і Юрась Шамецька. Кожны фрагмент свята быў адпрацаваны імі да малейшых дробязяў – падрыхтоўка праграмы, аб’явы і запрашэнне гасцей, убранства памяшкання, дзе праходзіла свята, аўдыё і відэа суправаджэнне, святочны канцэрт, выстава кніг, напісаных беларусамі Канады, арганізацыя святочнага стала, і шмат яшчэ якіх дэталяў, непрыкметных для неспрактыкаванага ў такіх справах вока. Усё было зроблена на вельмі прафесійным узроўні.

Вынікам такой падрыхтоўчай працы сталася вялікая колькасць удзельнікаў свята – звыш 160 чалавек. У вялізарным зале, дзе звычайна праходзяць урадавыя паседжанні, прагучалі гімны Канады і БНР, малітва “За Беларусь”, прачытаная архіепіскапам Святаславам (Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква), і яшчэ шмат добрых слоў ад гасцей свята.

Адметнай рысай святкавання ў Атаве было тое, што на свяце прысутнічала і выступіла з дакладам Старшыня Рады БНР, сп. Івонка Сурвілла. Беларусам Атавы пашчасціла, што сп. Івонка Сурвілла, якая ўсё сваё жыццё прысвячае служэнню бацькаўшчыне, яе незалежнасці і свабодзе, жыве ў нашым горадзе. Пасля даклада зал стоячы дружна вітаў яе авацыямі, а вялізарны букет бел-чырвоных руж быў толькі маленькай часткай той павагі і прызнання, якія адчувалі ўсе прысутныя.

У сваім вельмі цікавым выступленні сп. Г. Туміловіч, кандыдат гістарычных навук, расказала пра ролю праф. М.В. Доўнар-Запольскага, які абгрунтаваў асновы беларускай дзяржаўнасці і з'яўляецца аўтарам - на самой справе - асноў тагачаснай беларускай гістарычнай ідэалогіі, на якую абапіраліся лідэры БНР.

Вельмі цёплыя і адпаведныя святу словы былі сказаны дэпутатам Канадыйскага парламента, сп. Чандра Арыя, які адзначыў, што факт святкавання стагодняга юбілею абвяшчэння БНР у будынку Парламента Канады, толькі падкрэслівае тое, як Канада ставіцца і паважае культурныя і нацыянальныя традыцыі ўсіх народаў, уключаючы беларусаў.

Шмат добрых слоў на адрас удзельнікаў свята сказаў і дэпутат гарадскога савета, сп. Майкл Какіч, які выступаў па даручэнню мэра Атавы, сп. Джыма Ватсана, і перадаў ад яго віншавальнае пісьмо. З прамовамі выступілі прафесар З. Гімпелевіч і А. Лявончанка, старшыня ЗБК. Яшчэ адной вельмі прыемнай і адметнай рысай свята была прысутнасць лідэраў і прадстаўнікоў іншых дыяспар. З вітальнымі словамі выступілі Андрыс Кестэрыс (Латвія), Лорэта Гудінайтэ-Савіч (Літва), Станіслаў Забароўскі (Польшча), Аляксандр Яблонскі (Польшча). Свае лісты даслалі сенатар Канады Рэйнал Андрэйчак і лідэр украінскай суполкі ў Атаве, сп. Барыс Генгало. Прыемным сюрпрызам для ўсіх быў тост за Беларусь – нашы прыгожыя жанчыны разнеслі па залу бакалы, напоўненыя белым і чырвоным шампанскім, выстаўленым на падносе ў бел-чырвона-белым арнаменце.

На "ура" прайшоў канцэрт, у якім удзельнічалі як нашы артысты з Атавы - У. Шамецька, М. Рыкаў, П. Мурзёнак, Ю. Шамецька, Г. Рэзаіпур, Тэрэза Бакус, І. і У. Клімковічы, так і госці з Таронта – Валянціна Шаўчэнка і Ігар Чэпулкоўскі. Пасля канцэрта ўдзельнікі свята рабілі на памяць здымкі.

Не памылюся, калі скажу, што беларускае свята ў Атаве, прысвечанае гістрычнаму пачатку беларускай дзяржаўнасці ў сучасны перыяд, надоўга запомніцца як арганізатарам падзеі, там і яго гасцям.

Пётра Мурзёнак,

*14 сакавіка 2018 года, Атава*

*Прадстаўлены вышэй тэкст узгоднены з сябрамі Атаўскага аргкамітэта і па магчымасці будзе распаўсюджвацца ў СМІ.*

*Людзі, якія 11 сакавіка 2018 года здзейснілі гістарычнае святкаваньне*

*100-годдзя БНР у Атаве*



Ксенія, Аляксандр і Інна Каралькевічы



Аляксандра Логвін



Ўладзя і Юрась Шамецька



Галіна Рэзаіпур, Тэрэза Бакус



Валянціна Шаўчэнка, Ігар Чэпулкоўскі *(Таронта)*



Ірэна і Ўладзімір Клімковічы



Пётра Шварцман, Галіна Туміловіч, Галіна Рэзаіпур, Аксана Мазгавая



Ірына Панчанка, Аксана Мазгавая



Наталія Баркар і Пётра Мурзёнак

Месца, дзе праходзіла свята: **Commons Reading Room, Parliament Hill, Ottawa**

*За дзве гадзіны да свята*





Інтэр’ер памяшканьня




Інтэр’ер памяшканьня




Выстава кніг, напісаных рознымі пакаленьнямі канадыйскіх беларусаў. Выстава арганізавана сябрамі БІНІМа. Спіс кніг, прадстаўленых на выставе у гонар 100-годдзя БНР, размешчаны ў дадатку, у канцы часопіса.



Агульны здымак



Арганізатары пасля гістарычнага святкаваньня

*Ніжэй падаюцца матэрыялы, прысвечаныя святкаваньню 100-годдзя БНР у Аттаве, 11 сакавіка 2018 года, пачынаючы з праграмы, прэс-рылізаў, прамоў і г.д.*

**Belarusian Canadian Alliance, Ottawa Chapter**

**Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada**




# Centennial Anniversary

# Belarusian Democratic Republic

# 100 гадоў БНР

**March 11, 2018**

**Commonы Reading Room, Parliament Hill, Ottawa**

**ПРАГРАМА**

**Нядзеля, 11 сакавіка 2018 года**

**12.00 – 13.00** ***Пачатак свята***

**13.00 – 14.00** ***Даклады***

**Святаслаў Логін, архіяпіскап БАПЦ “Малітва за Беларусь”**

**Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР**

**Галіна Туміловіч, канд. гіст. навук, “БНР: Роля М. В. Доўнар-Запольскага ў абгрунтаванні высноў беларускай дзяржаўнасці”**

***Афіцыйныя вітанні***

**Джым Ватсан, мэр Атавы**

**Чандра Арыя, сябра Канадыйскага парламента (Nepean)**

**прафесар Зіна Гімпелевіч, віцэ-старшыня Беларускага інстытута мастацтваў і навук, Канада**

**Алена Лявончанка, старшыня ЗБК**

**прадстаўнікі дыяспар у Атаве – A. Kesteris (латышская), L. Gudynaite-Savich (літоўская), J. Czartoryski, A. Jabłoński (польская), B. Gengalo (украінская)**

**14.00 – 15.00** ***Канцэрт***

**Дуэт Кантабіле – Міхал Агінскі, паланэз "Развітанне з Радзімай"**

**Паэтычна-музычная кампазіцыя на вершы Юрася Шамецькі і Пётры Мурзёнка ў суправаджэнні дуэта Кантабіле (Уладзя Шамецька і Міхась Рыкаў), музыка Астара П’яцолы, Антаніна Дворжака, Рольфа Лёўланда, Рамана Другалёва**

**Ігар Чэпулкоўскі - "На роднай зямельцы", сл. Ларысы Геніюш, муз. Алеся Камоцкага**

**Валянціна Шаўчэнка і І. Чэпулкоўскі - "Не глядзі", сл. Ларысы Геніюш , муз. Алеся Камоцкага**

**В. Шаўчэнка - "Запяі мне песню", сл. Ларысы Геніюш, муз. Вальжыны Цярэшчанка**

**В. Шаўчэнка, Міхась Рыкаў (гітара) – "Сцяг", сл. У. Някляева, муз. З. Вайцюшкевіча**

**Галіна Рэзаіпур (акампаніруе Тэрэза Бакус) – Людвіг ван Бетховен, саната №5 "Вясновая", 1-я частка; Рычард Вагнер, "Лісток з альбому"; Яўген Глебаў, "Адажыа" з балета "Маленькі прынц"**

**Ірэна і Ўладзімір Клімковічы - Полька**

**В. Шаўчэнка - беларускія народныя песні "Чаго ты, лося", "Ой ты, Сонца"**

**Заключная песня разам "Беларусь мая снілася мне", сл. Генадзя Бураўкіна, муз. Леаніда Барткевіча**

**15.00 – 16.00** ***Працяг свята, размовы***

***

**PROGRAM**

**Sunday, March 11, 2018**

**12.00 – 13.00** ***Opening Ceremony and Reception***

**13.00 – 14.00** ***Presentations***

**Svjataslau Login, BAOCarchibishop, "Pray for Belarus"**

**Ivonka J. Survilla, President of BNR Rada**

**Galina Toumilovitch, PhD "BNR: The Role of M. Dounar-Zapolski in Substantiating the Foundations of the Belarusian Statehood"**

*Greetings*

**Jim Watson, Mayor of Ottawa**

**Chandra Arya, Member of Parliament for Nepean**

**Prof. Zina Gimpelevich, Vice-President of the Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada**

**Alena Liavonchanka, President of BCA**

**Leaders of other communities – A. Kesteris (Latvian), L. Gudynaite-Savich (Lithuanian), J. Czartoryski and A. Jabłoński (Polish), B. Gengalo (Ukrainian)**

**14.00 – 15.00** *Concert*

**Duet "Cantabile" - M. Oginski, Polonaise "Farewell To Homeland"**

**Musical composition with poems of Yuri Chametka and Piotra Murzionak, accompanied by duet "Cantabile" – Vlada Chametka, Michail Rykov (music by A. Piazzolla, A. Dvorak, R. Lovland, R. Drugalev)**

**I. Chepulkouski, "In the homeland" (lyrics L. Hienijus, music A. Kamotski)**

**V. Chevtchenko, IgarChepulkouski, "Don't look" (lyrics L. Hienijus, music A. Kamotski)**

**ValentinaChevtchenko, "Sing me asong" (lyrics L. Hienijus, music V. Tsiareshchanka)**

**V. Chevtchenko, MichailRykov (guitar) – "Flag" (lyrics U. Niakliaeu, music Z. Vajciushkevich)**

**Galina Rezaeipour, violin (accompanied by TerezaBakus, piano) - Ludwig van Beethoven, Sonata №5 "Spring", Part 1; Richard Wagner "AlbumLeaf"; EvgenyGlebov "Adagio" from the ballet "The Little Prince"**

**Irena and VladimirKlimkovich – folk dance *Polka***

**V. Chevtchenko – Belarusian folk songs "What do you call for, moose", "Oh you, the Sun"**

**Final song (together) "I dreamed of my Belarus" (lyrics G. Buraukin, music L. Bartkievich)**

**15.00 – 16.00** *Networking*



## Гімн БНР

**Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!**

**Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.**

**На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!**

**Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.**

**Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваей!**

## Anthem of Canada



**O Canada! Our home and native land!**

**True patriot love in all of us command.**

**With glowing hearts we see thee rise,**

**The True North strong and free!**

**From far and wide**

**O Canada, we stand on guard for thee.**

**God keep our land glorious and free!**

**O Canada, we stand on guard for thee.**

**O Canada, we stand on guard for thee.**

***

**O Canada!**
**Terre de nos aïeux,**
**Ton front est ceint de fleurons glorieux.**
**Car ton bras sait porter l'épée,**
**Il sait porter la croix.**
**Ton histoire est une épopée,**
**Des plus brillants exploits.**
**Et ta valeur, de foi trempée,**
**Protégera nos foyers et nos droits.**
**Protégera nos foyers et nos droits.**



**The Belarusian Canadian Alliance (BCA) is a public not-for-profit organization whose objectives include preserving and promoting Belarusian national and cultural heritage, consolidating Belarusians in Canada, and promoting and supporting ethnic cultural and educational activities. The BCA was founded in 1948; the Ottawa Chapter of the BCA was founded in 1973.**




**The Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada, named after Francišak Skaryna, is an organization of scholars, writers, artists, and other representatives of Belarusian culture in Canada,united by plowing the fields of Belarusian studies and culture for disseminating andadvancing such studies and culture in Belarus, Canada and abroad. The Institute was founded in 1967.**

**Belarus: The Hidden History of an Ancient Country** *(press-release)*

The 100th anniversary of independence of the Belarusian Democratic Republic (BNR) will be celebrated on March 11, 2018 in the Commonwealth Reading Room (247C) of the Central Block Building of the Parliament of Canada. The event is organized by the Ottawa Chapter of the Belarusian Canadian Alliance, which has united Canadians with Belarusian heritage since 1948. The celebration will be held from 12:00 to 16:00. Mayor Jim Watson, MP Chandra Arya, and leaders and representatives from Latvian, Lithuanian, Polish, Ukrainian and other communities have been invited and plan to attend. More than 100 attendees are expected.

The history of Belarus, an ancient ethnic group with a thousand-year history, has been hidden behind the history of the Grand Duchy of Lithuania (GDL) and the Russian Empire. Even 20 years ago, the country with the name “Belarus” was known to only very few people in Canada. The only commonly known fact might have been that 20 per cent of the territory of Belarus was contaminated by radioactive ashes as a result of the Chernobyl tragedy. In 2002, after the sensational victory of the Belarusian hockey team over the Swedish team (4:3) at the Olympic Games in Salt Lake City, Belarus began to be perceived as a country with a strong school of hockey players, who soon began to play in many teams in the NHL and worldwide.

Belarusian ethnicity developed with ages, starting with the Duchy of Polotsk (IX-XIII cc.), and then the Grand Duchy of Lithuania (XIII-XVI cc.), Rzeczpospolita (XVI-XVIII cc.), the BNR, and finally, the BSSR (XX c.).

The Duchy of Polotsk was the first form of the Belarusian statehood. It was founded in 960, and advanced independently from the Duchies of Kiev (Kiev Rus’) and Novgorod; it had no relationship to the Rurikids Empire. During its existence, the Duchy of Polotsk (960-1397) was reigned by 31 sovereigns (dukes). The ancient Duchy of Turov, which was founded in 980, and became independent from the Kiev monarchy in 1162, and the Duchy of Grodno (1127-1270) were based in the territory of modern Belarus.

In the first half of the XIV c., a large part of the territory of modern Belarus existed as the Balts’ Slavic state known as the Grand Duchy of Lithuania. 55 per cent of the GDL were Belarusian lands. The official language of the GDL was old Belarusian. The GDL territory expanded to 630,000 square kilometers during the reign of Duke Algerd (1345-1377). In general, in the XIII-XV cc., the most of today’s Belarusian and Ukrainian lands were part of the GDL uniting Eastern Slavs and securing them from the influence of the rigid autocracy of Turks reigning in North-East counties at the time.

In the X-XVIII cc., the territory of modern Belarus was not under the reign of the Muscovy (or Russian) Empire. Historians therefore view Belarusians as part of the Western, and not Eurasian, civilization; this is largely because of certain historic epochs that Belarus experienced at the time such as Renaissance, Reformation, Counter-Reformation, the Union of Brest, the Enlightenment, as well as the presence of some Western European public institutions, including Parliament, Sejm, Magdeburg rights, and town halls. The three Charters of the GDL adopted in 1529, 1566, and 1588 were written in Old Belarusian. In 1569, the GDL merged with the Kingdom of Poland in the Commonwealth of Two Nations, *Rzeczpospolita*. Out of the nine provinces of the GDL, eight were on the modern Belarusian territory, occupying 77% the GDL.

The modern history of Belarus began after the 1917 October Revolution. After 120 years under the Russian Empire, Belarus proclaimed its independence on March 25, 1918 as the BNR. However, Bolsheviks, frightened by the possibility of Belarus to decide for their own future, prevented the survival of the young Belarus. After a one-year existence as the BNR, Belarus became the Byelorussian Soviet Socialist Republic (BSSR) on January 1, 1919, which existed until the collapse of the USSR. Historians believe that the BSSR would not have existed but for the proclamation of the independent BNR.
For more information: www.radabnr.org, www.sakavik.net

*by Alexandra Logvin and Piotra Murzionak,*
*Ottawa, March 4, 2018*

**Bélarus : Histoire cachée d'un pays ancien** *(communiqué de presse)*

La célébration du 100-e anniversaire de la proclamation de la République démocratique bélarussienne aura lieu le 11 mars 2018 dans la Salle de lecture du Commonwealth (247C) à l'Édifice central du Parlement du Canada. Festivités à cette occasion sont organisées par la Section de l'Alliance des Bélarussiens du Canada unissant, depuis 1948, les Canadiens d'origine bélarussienne. La célébration se tiendra de 12 à 16 h.

Parmi les invités dont le nombre attendu irait jusqu'à une centaine de personnes, il serait opportun de nommer, en premier lieu, le maire de la ville d'Ottawa Jim Watson, le député de Nepean (Chambre des Communes) Chandra Arya ainsi que les chefs de file et les représentants des communautés différentes : Lettonne, Lituanienne, Polonaise et Ukrainienne.

Les Bélarussiens, en tant qu'entité ethnique, un peuple sont connus de longue date, depuis environ un millier d'années. Cependant sur le plan étatique l'histoire bélarussienne a été «cachée» durant des siècles sous celle du grand-duché de Lituanie (GDL) et, après, de l'Empire Russe. Même il y a une vingtaine d'années le Belarus a été toujours peu connu au Canada. Et pour la plupart des gens le Bélarus a été connu à l'époque plutôt en tant que pays dont le territoire (20%!) est le plus touché par les tombées radioactives de l'explosion de la centrale de Tchernobyl (en 1986).

Ensuite, en 2002, après une victoire sans précédente de l'équipe des Joueurs de hockey du Belarus dans le match contre l'équipe des Suédois (avec le score 4:3) lors des Jeux Olympiques à Salt Lake City, le monde a découvert le Bélarus aussi comme un pays ayant une bonne école des joueurs de hockey. Les joueurs bélarussiens seront invités désormais aux équipes différentes y compris celles de la NHL (Ligue Nationale de Hockey) au Canada et dans d'autres pays.

Ainsi, historiquement les Bélarussiens ont vécu successivement dans le cadre des états tels que la principauté de Polotsk (IX-XIII s.), le grand-duché de Lituanie (XIII-XVI), puis dans un nouvel État connu sous le nom de l'État polono-lituanien (XVI-XVIII) ou Rzeczpospolita avant de passer sous domination russe, et après, au XX s. dans le cadre de la RDB, puis, finalement, de la BSSR ( République Soviétique de Biélorussie).

La principauté de Polotsk (fondée en 960) était le premier état sur le territoire bélarussien et possédait son propre prince, de la maison de Rogvolod (dynastie locale sans liens de parenté avec celle des Riourikides qui était la seule reconnue par les pays russes - Russie de Kiev et de Novgorod). La dynastie de Rogvolod dont on connait 31 princes s'est éteint au XIV siècle. Outre la principauté de Polotsk il y avait d'autres principautés sur le territoire du Bélarus contemporain, comme la principauté de Tourov et celle de Grodno.

Ensuite, dans la première moitie du XIV siècle la plupart du territoire du Bélarus contemporain est entré dans le grand-duché de Lituanie, État multinational et multiconfessionnel où se côtoyaient des populations massivement slaves et d'autres mi-slaves, mi-baltes. Des territoires bélarussiens occupaient alors 55% de tout le territoire du GDL. Dès le début la langue officielle de cet État était le vieux bélarussien. La superficie du territoire du grand-duché s'étendait progressivement en couvrant une surface de 630 km carrés sous le règne du duc d'Algierd (1345-1377). Le grand-duché de Lituanie a atteint son apogée au début du XV siècle avec la stabilisation de ses frontières avec les possessions de Teutoniques (à l'ouest) et celles de la Russie de Nord-est avec la présence alors marquante dans ces dernières des peuples turcs (connus souvent dans la littérature historique française sous le nom des *Mongols* G.T.).

Presque en même temps commence le rapprochement entre le grand-duché de Lituanie et la Pologne pour des intérêts politiques/géopolitiques. Ce mouvement s'est accéléré à partir du XV siècle à cause de la menace extérieure, provenant de la principauté de Moscou à l'est. Ainsi, les deux États ont conclu un traité d'union (Lublin, 1569) : le nouvel État a pris le nom de Rzeszpospolita ou République polono-lituanienne. Cet État, apparu d'abord comme confédération, puis transformé en fédération, a existé jusqu'à la fin du XVIII siècle avant les trois partages successifs de son territoire entre la Russie, la Prusse et l'Autriche (en 1772, 1793 et 1795).

Le territoire bélarussien occupait au moment de l'union de Lublin 77% de la surface du GDL. Le destin des territoires bélarussiens allait être conditionné pour la première fois dans l'histoire par la politique du tsarisme russe. Par contre, certaines institutions publiques du GDL et surtout le Statut de cet État, Code commun des lois formulé en trois versions (1529, 1566 et 1588, écrit dans le vieux bélarussien et considéré par les spécialistes comme l'un des codes les plus avancés de l'Europe à l'époque en matière des droits de la personne) continuaient de rester en vigueur au début de la domination russe. Ces répliques du passé ainsi que la Réforme, Contre-réforme et d'autres traits marquants de l'époque précédente ayant des conséquence directes pour l'avenir de plusieurs Ukrainiens et Bélarussiens (par exemple, création de l'Église uniate) permettent d'affirmer aux certains spécialistes que les Bélarussiens sont formés au sein de la civilisation occidentale et non pas eurasiatique.

L'histoire moderne du Bélarus commence au XX siècle, après la Révolution russe (octobre 1917). Le 25 mars 1918 a été proclamée la République Démocratique bélarussienne, résultant d'un mouvement national-patriotique et, en décembre de la même année, avec la proclamation de la Biélorussie Soviétique, son gouvernement a dû s'exiler. Ainsi, le sort de la République Démocratique a été prédestiné par le jeu et intérêts politiques de plus puissants acteurs politiques, à savoir la Russie soviétique, ses alliés et

ses anciens adversaires de l'époque de la Première Guerre mondiale. Cependant, cet État, dont le gouvernement se trouve désormais en exil-(avec Yvonne Sourvilla actuellement à sa tête), a beaucoup influencé le développement de la conscience nationale et patriotique. Finalement, sans la proclamation de la BNR (abréviation d'après son appellation en bélarussien - G.T.), la République Soviétique n'aurait jamais vu le jour, ni la République du Bélarus d'aujourd'hui non plus. Pour plus d'informations, s'il vous plaît contacter: www.radabnr.org, www.sakavik.net

*Galina Tumilovich et Piotra Murzionak*

*4 Mars 2018, Ottawa*

**Прамова сп. Івонкі Сурвілла, Старшыні Рады БНР, на святкаванні 100-годдзя БНР у Атаве**

*(11 сакавіка 2018 года, Цэнтральны будынак Парламента Канады)*



**Honorable Members, dear Friends of Belarus, дарагія суродзічы!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаю вас са Стагоддзем!

Святкуем мы сёння не толькі Юбілей БНР, але і стагоддзе змагання за здзяйсненне ідэалаў БНР.

Partout dans le monde les Biélorussiens célèbrent cette année le Centenaire de la proclamation de l'indépendance de leur pays. C'est un immense honneur de célébrer ce jour, le plus important de l'histoire moderne du Belarus, dans ce lieu prestigieux. À tous ceux qui ont rendu cela possible, j'aimerais dire un grand merci au nom de la Rada de la République Démocratique Belarussienne en Exil, que je représente ici.

Belarusians all over the world are celebrating this year the Centennial of the proclamation of independence of the Belarusian Democratic Republic, as well as one hundred years of political and cultural momentum which has resulted in the emergence of present day Belarus. I am honoured to celebrate this most important

event in modern Belarusian history in this prestigious environment. I thank all those who have made this possible.

At the time of the events of 1918 which we are celebrating today, Belarus had spent 123 years as “the North-Western Territory” of the Russian Empire. All cultural, political and spiritual markers of bielarusianess were eradicated and every protest was followed by repressions and deportations.

And yet, our people survived this darkest period in our history. Their desire for self-determination materialized during WWI. After the collapse of the Russian Empire, the First All-Belarusian Congress convened in Miensk in 1917 in order to establish a Belarusian state. The Congress, attended by 1872 delegates, elected the Rada of the Belarusian Democratic Republic which, on the 25th of March 1918, proclaimed the independence of the Belarusian Democratic Republic.

An independent Belarus lasted less than one year. It was overrun by the Red Army, and the Rada, together with the BNR Government, went into exile. However, as a counterweight to the Belarusian Democratic Republic, the Bolsheviks set up in January 1919 the Soviet Socialist Republic of Belarus, which in turn lasted until the independence of the present Republic of Belarus was proclaimed in 1991.

The Rada of the Belarusian Democratic Republic has been active for one hundred years. I have the privilege to be its eighth President. Unlike some other Governments in exile of former Soviet Republics and Satellites, the Rada decided not to return its mandate in 1991, which has allowed us to continue being the legitimate voice of the people of Belarus during the dictatorship of Alaksandr Lukashenka.

We are proud to celebrate today our longevity as well as the 100th Anniversary of the proclamation of independence. By our very existence, we prove to the free world that our nation is deserving international attention. But being solely a symbol has never been our goal. The eighty members of the Rada, who represent us in fifteen countries of the free world and are supported by our diaspora, have been reminding their fellow citizens about the 10 million human beings in the midst of Europe, who still long to become a free European nation with a democratically elected government, that would respect their language, their culture, their dignity, and their human rights.

We remind our fellow citizens of the many poets, writers, composers, athletes, actors and painters Belarus has given to the rest of the world, whose names you probably know without realizing that they were or are Belarusian-born. Our latest contribution is the 2017 Nobel prize of Literature, Svietlana Alexievich.

But while we dedicate much time to inform the international community about Belarus, our main concern is the very real threat to Belarus' independence and sovereignty from our increasingly assertive Eastern neighbour. We continue to attract world's attention to its aggressive foreign actions, to the oblivious international policies and to the efforts in Belarus to bring about change. It is our hope that Belarus will somehow benefit from the global trend towards the respect and support of human rights and of self-determination.

Nous espérons que par le fait même de notre existence et par nos efforts pour faire connaître le Belarus et protéger son indépendance, nous contribuons à une meilleure compréhension des enjeux de cette partie du monde.

Mais si j'ai mentionné non seulement la célébration du Centenaire de la proclamation de l'indépendance de la République Démocratique Belarussienne, mais aussi ce que la Rada BNR a accompli pendant ces cent ans pour que le Belarus retrouve sa place dans la famille des nations du monde, c'est que nous éprouvons une grande fierté de ce patrimoine que nous avons hérité de nos ancêtres et qui nous a permis de poursuivre leur tâche. Nous avons entretenu avec fierté les idéaux de liberté, d'indépendance et de démocratie exprimés dans les trois Chartes fondatrices de la BNR, et nous sommes heureux aujourd'hui de partager cette fierté avec vous.

Je vous remercie. Thank you.

Ivonka J. Survilla

*March 11, 2018*

**Г.Туміловіч, PhD, Ordre des Palmes Académiques**

**БНР: Роля М.В.Доўнар-Запольскага ў навукова-гістарычным абгрунтаванні высноў беларускай дзяржаўнасці** *(тэзісы для выступлення)*



1. Абвяшчэнне 100 гадоў назад, 25 сакавіка 1918г. БНР – лёсавызначальная падзея і першы важнейшы рубеж найноўшай гісторыі Беларусі, - тады мы заявілі аб сваім праве на ўласную дзяржаўнасць.
2. У сувязі з гэтым яе 100 годдзе аб'ядноўвае на сёння ўсіх беларусаў, - дзе б яны/мы ні жылі і як бы да гэтага ні ставіліся.
3. У рамках азначэння гэтай гістарычнай падзеі паўсюль праводзіліся розныя сустрэчы, канферэнцыі, інтэрв'ю з удзелам грамадскіх і палітычных дзеячоў, навукоўцаў і іншых спецыялістаў. Дыяпазон разглядаемых пытанняў вельмі шырокі: ад ролі і значэння БНР да пазіцый і лёсу асноўных яе стваральнікаў.
4. Для мяне, як гісторыка і даследчыка, адным з асноўных пытанняў з'яўляецца навуковае абгрунтаванне (стварэння) беларускай дзяржаўнасці: іншымі словамі, чаму беларусы маюць права на сваю дзяржаўнасць. –Вядома, што народаў на працягу гісторыі існавала і існуе шмат, але не ўсе яны здолелі стварыць свае дзяржавы.
5. Дарэчы, сёння, - на базе гістарычнага матэрыялу і вядомых даследаванняў казаць аб гэтым даволі проста. Аднак 100 гадоў таму назад сітуацыя была зусім іншай. - Ніхто, акрамя суседзяў, не ведаў, хто такія беларусы. Першым даследчыкам, хто на аснове глыбокага ведання гісторыі і дапаможных і сумежных дысцыплін, такіх, напрыклад, як этнаграфія і картаграфія, вызначыў беларусаў як асобную культуру, асобны народ, што мае права на сваю дзяржаўнасць, быў Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі. Наш зямляк, беларус, шляхціц, родам з Рэчыцы. У разглядаемы час ён ужо прафесар Кіеўскага ўніверсітэту.

6. Што ж, дакладней кажучы, ён зрабіў у гэтым сэнсе? Па-першае, мы вядзём гаворку пра яго публікацыю “Асновы беларускай дзяржаўнасці”, што выйшла ў Гародні і – па некаторых сведчаннях – у Вільні ў 1919 г. Па-другое, нельга забываць і пра яго ўнёсак у складанне/састаўленне мапы/***карты*** Беларусі. Менавіта ён абгрунтаваў і вызначыў паўднёвую мяжу Беларусі, г. зн. з Украінай, якая па сутнасці захоўваецца і на сёння (з Брэстам-Кобрынам-Рэчыцай-Мозырам-Гомелем), т. чынам тады перамагла яго канцэпцыя.

7. Але! Яго галоўная заслуга – гэта абгрунтаванне асноў беларускай дзяржаўнасці. Менавіта ен вызначыў і сфармуляваў асновы беларускай гістарычнай ідэалогіі на той час, на якую абапіраліся/спасылаліся лідэры БНР, каб даказаць/давесці, што беларусы маюць сваю доўгую дзяржаўную традыцыю/ каб прадэманстраваць існаванне дзяржаўнай традыцыі ў беларусаў.

8. Асноўныя тэмы і пастулаты, якія ён вылучыў пры аналізе – у храналагічным парадку - гістарычнага развіцця Беларусі, гэта: А) Полацкае і іншыя самастойныя княствы на бел. тэрыторыях да 13 ст.; В) потым ён звярнуўся да гісторыі ВКЛ, дзе**,** ***па-першае***, ён асаблівую ўвагу надаваў перыяду да ўніі з Польшчай, (Люблінскай уніі 1569). Ён ***першы***, хто назваў ВКЛ ***Беларуска-Літоўскім Княствам***, падкрэсліўшы тым самым роўныя правы беларусаў з літоўцамі на дзяржаўную спадчыну ВКЛ. ***Па-другое***, пры аналізе наступнага перыяду развіцця ВКЛ, - у складзе адной дзяржавы з Польшчай, ён падкрэсліваў дабраахвотны характар саюзу з абодвух бакоў – і ВКЛ, і Польшчы і федэратыўны характар створанай імі агульнай дзяржавы. Нарэшце, ***па-трэцяе***, у адносінах да апошняга перыяду развіцця Беларусі, - у складзе Расійскай імперыі, Доўнар-Запольскі зыходзіў з пазіцыі, што нічога станоўчага для Беларусі гэты перыяд не меў, таму што расійскі ўрад прадугледжваў і праводзіў у адносінах да беларускіх земляў выключна толькі палітыку русіфікацыі. Такім чынам, па Д.-З. – ВКЛ – апошняя – да падзей кастрычніка 1917года (Руская рэвалюцыя) дзяржаўная структура, якую беларусы могуць разглядаць як уласную дзяржаву.

9. Публікацыя Доўнар-Запольскага, акрамя свайго гістарычнага і грамадска-палітычнага значэння: высновы аб тым, што дзяржаўнае самавызначэнне беларусаў было гістарычна прэдэтэрмінавана, мела яшчэ і больш практычную мэту. Менавіта, яна павінна была прадставіць ўдзельнікам Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919 г. (Версаль) гісторыю беларускага народу такім чынам, каб можна было весці размову/перамовы аб будучыні Беларусі.

10. Таму публікацыя адразу ж з’явілася на шмат мовах – бел.-руск-ням-польскай і- асабліва – французскай, праз якую лідэры БНР хацелі быць пачутымі ў Парыжу, дакладней, у Версалю. Да таго ж французская мова была ў той час найважнейшай мовай дыпламатыі (пераклад на ангельскую з’явіўся пазней).

 *ISSN 2291-4757*

11. Як вядома, сто гадоў таму назад, нягледзячы на ўсё, што было зроблена кіраўнікамі БНР, ідэя стварэння на мапе свету новай дзяржавы – не знайшла падтрымкі на міжнароднай арэне. Аднак пры гэтым заслугі Доўнар-Запольскага нельга пераацаніць, - з-за яго ўкладу ў развіццё ідэі беларускай дзяржаўнасці, як і яго ролю ў развіцці гістарычнай беларускай навукі. Ён – адзін з заснавальнікаў айчыннай гістарычнай навукі і разам з тым – адзін з найвыбітнейшых беларускіх гісторыкаў.

**Chandra Arya, Member of Parliament of Canada: Belarusian day on the hill speech**



Hello my friends,

I am honoured sponsor such a momentous occasion. I would like to extend my thanks to the Belarusian Institute of Arts and Sciences, and the Belarusian Canadian Alliance for their hard work and effort in organizing such a wonderful celebration.

I would like to extend my congratulations to the Belarusian people in celebrating the centennial year of independence of the Belarusian Democratic Republic.

One of the great things about Canada is its acceptance and encouragement to celebrate other cultures. I am happy and proud to be here with you to celebrate the amazing men, women and children of the Belarusian community. It is through celebrations like these, we are able to discover what makes each culture different, and enables us to appreciate its uniqueness.

We don’t all speak the same language, or practice the same religion, and that’s okay. As Canadians there are ultimately more things that unite us than divide us. Our shared values like equality, peace and respect are what bring us together as a nation and enable us to support one another, no matter what our differences in culture may be.

As I look around the room today, I am reminded of just how many of us come from different backgrounds. I read a statistic that said one in five Canadians was born in another country.

I myself was born and raised in another country. Originally from Bangalore, in southern India, I have since lived in multiple countries and societies with different cultures. One commonality that has always stood out to me, are shared family values. Respect towards elders and responsibility to children is a universal human quality I have personally observed in many different societies.

As our Prime Minister, Justin Trudeau said in his Canada 150 speech:

"Canada is a country made strong not in spite of our differences but because of them. We don't aspire to be a melting pot – indeed, we know true strength and resilience flows through Canadian diversity. Ours is a land of indigenous peoples, settlers, and newcomers. And our greatest pride is that you can come here from anywhere in the world, build a good life, and be part of our community. We don't care where you're from or what religion you practice or whom you love. You are all welcome in Canada. We may be of every colour and creed, from every corner of the world.... But we embrace that diversity, while knowing in our hearts that we are all Canadians, and that we share a common pride in that red and white flag."

With that I would like to say welcome to Parliament, and have a very happy celebration.

**Арганізатары свята выносяць сваю шчырую падзякую, сп. Чандра Арыя, за яго падтрымку і прадстаўленую магчымасць адзначыць 100-годдзе БНР у будынку Парламента Канады!**

**125 - ад нараджэння Паўліны Мядзёлка** (24.09.1893-13.02.1974) - пісьменніцы, педагога, артысткі, Заслужанага дзеяча культуры Беларусі. У 1907 г вучылася на вячэрніх курсах у Рызе. З 1922 да 1925 гг. працавала выкладчыцай Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Распрацаваная ёю пастаноўка камедыі Янкі Купалы "Паўлінка" мела неверагодны поспех па ўсёй Латвіі, і ў Райніса асабіста. З яе літаратурных дабыткаў і песня-гімн "Пад гоман вясёлы", прысвечаны Тамашу Грыбу.

Медунічнаму Мядзелу золка.
Парадзела туманы ходзяць,
дзе ходзілі і Вы, Мядзёлка,
у ласкавай сваёй прыгодзе.
("Нарачанскае падарожжа")

**125 - ад нараджэння Езавітава Канстанціна Барысавіча** (17.11.1893, Дынабургская крэпасць – 23.05.1946, мінская турма) - паэта, публіцыста, гісторыка, энцыклапедыста, актыўнага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння ў Латвіі. У 1919-20 гг. кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. З 1921 да 1944 гг. жыў у Рызе. Заснаваў газету "Голас Беларуса", часопіс "Беларуская школа ў Латвіі". Латвійскія ўлады арыштоўвалі К. Езавітава ў 1924, 1930, 1933, 1935 гг.

Сёння знойдзеным ветразем сцелецца
ваяроў-весляроў павучанне:
"Анікуды Айчына не дзенецца,
не сплыве Беларусь у маўчанне.
("Вялікае Княства Беларусь")

**125 гадоў Памяці пра Міхала Эльвіра Андрыёлі** (26.11.1837-29.08.1893) - мастака, ілюстратара.. Удзельнік паўстання 1863-1864 гг. (у аддзеле Людвіка Нарбута). Пасля арышту адпраўлены адбываць пакаранне ў Рыгу.

**125 гадоў Памяці пра Ігната-Антона Храпавіцкага** (31.07.1817 – 25.12.1893) – паэта, фалькларыста, перакладчыка, грамадскага дзеяча. Жыў у Дрысенскі павеце Віцебскай губерні. Выдаваў альманах "Rubon".

Заўтра новы госць прыбудзе
на прастор крывіцкі…
…Светла веру: годна будзе
слугаваць Рубону, людзям
шляхціц Храпавіцкі.
("У Каханавічах – свята")

**125 гадоў Памяці пра Вайніслава (Войслава) Казімера Суліму-Савіч-Заблоцкага** (15.03.1850 – 3.02.1893) – беларускага і польскага пісьменніка, фалькларыста.

**120 – Міколу Талерку** (4./17/.12.1898 - ) - педагогу, мастаку, паэту, празаіку, фалькларысту, археолагу, філатэлісту і нумізмату, прафесійнаму фатографу.

**115 – ад пачатку выдання (1903-1922) сямітомнай працы "Беларусы" Яўфімам Карскім** (1.01.1861-29.04.1931) - славістам, этнографам, фалькларыстам, палеографам.

**115 – ад нараджэння Наталлі Арсенневай** (20.09.1903-25.07.1997) - паэтэсы, драматурга. У 1920 г. па дарозе з Дрысы ў Вільню праходзіла Краславу, Дзвінск…Партрэт аўтаркі знакамітага гімна стварыў Вячка Целеш.

Жмурыстага Жоўніна
слова адухоўлена, -
і "Магутны Божа" змог
веснавесціць наш парог
("Прытулак бежанкі")

**115 гадоў таму ў гарбарных майстэрнях Мітавы (Елгавы), Дзвінска (Даўгаўпілса), Рыгі працаваў Змітрок Жылуновіч** (23.11.1887-11.04.1937). Пазней ужо як Цішка Гартны ён сустракаўся ў Рызе з Канстанцінам Езавітавым.

Да нас вярнуўся невядомым, даўнім.
А быў аратым, першым на сяўбе…
Цераз пакуты праступала даўка
Няскораная памяць пра Цябе.
("І прарасло імя")

**115 гадоў таму Кудрэвіч Уладзімір Мікалаевіч** (25.11.1884-4.01.1957) - жывапісец-пейзажыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі пачаў вучобу ў Лібаўскім (Ліепая) мастацкім вучылішчы ( з 1903 па 1906 гг.).

**115 – ад нараджэння Заіра Азгура** (15.01.1903 – 18.02.1995) – скульптара, педагога, Героя сацыялістычнай працы, Народнага мастака СССР.

У скульптара - Постаць, у дойліда – Дом…
Служыць Беларусі натхненнне наймала.
…Калі гурбавалі ГУЛАГі кайлом,-
прад Азгурам горка ўсміхаўся Купала.
("Незабыўнае")

**110 – ад нараджэння Ніны Ватацы** (14.05.1908-3.08.1997) - бібліёграфа, літаратуразнаўцы. У 1925 г. яе сям”я пераехала з г. Вэндэн (Цэсіс) у Мінск.

Над Вамі кругі-супоні:
Архангельска, Кірава ночы…
Ля Вашага сэрцайка-поўні
ачынаўся Максім Багдановіч.
(“Старонкі жыцця”)

**110 – ад нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча** (4.02.1808 – 21.12.1884) – празаіка, паэта, драматурга, першага класіка беларускай літаратуры.

Панясу Тваю зольную долю
у мой сонечны дзень, у прыволле,
да апошняй тапырнай травінкі, -
каб ад роднай зямлі несурочнай
не адарвацца.
(“Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч”)

**110 – Беларускаму аддзелу, заснаванаму пры Царкоўным (Нацыянальным) музеі**, які пазней стаў называцца Музеем украінскага мастацтва ў Львове. Першы замежны беларускі нацыянальны музей узнік з нагоды прапановы Яна Луцкевіча мітрапаліту Андрэю Шэптыцкаму. Даручана было ствараць фонд львоўскаму вучонаму Іларыёну Свянціцкаму. Для музея былі закуплены старадрукі, выдадзеныя ў Вільні, Еўі, Заблудаве, Куцейне, Магілёве, Супраслі, пражскія і віленскія скарынаўскія выданні … І. Свянціцкі з паездак па Беларусі прывозіў слуцкія паясы, граматы, акты, рарытэты уніяцкай царквы…

Узнёслы горад – як мальберт…
Я, беларускасці малюск,
раскрыў Свянціцкага канверт
спасцігнуць сэнс: “Мэфэцыт Слуцк”
(“Мяне стварыў Львоў-Альбоў”)

**105 – ад нараджэння Сахаравай Галіны Сяргееўны** (24.11.1913 – 11.11.1940) - дачкі С.С. Сахаравай, яго памочніцы па збору фальклора. Пахавана на могілках у Люцыне (Лудза).

**105 – ад нараджэння Грахоўскага Сяргея Іванавіча** (24.09.1913 – 11.12.2002) – паэта, празаіка, перакладчыка. Да 10 гадоў калоніі быў асуджаны 2.10.1937 г. органамі НКУС. Пацярпеў як “член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі” і за прыдуманую ў яго адрас “антысавецкую дзейнасць”. Паўторна арыштаваны 19.05.1949 г. Аўтар трылогіі “Такія сінія снягі” і іншых твораў.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі за зборнік "Споведзь".

Грахоўскі меў у тундру шлях,
дзе праз ГУЛАГ айчынны дах
не быў відзён. Ламаўся крок…
Але яснеў у вязня зрок -
і волю выраям займеў.
("На крылах выраяў")

**100 - з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года**

Бацькаўшчынаю насычаны,
ажылі і валуны…
Мы – галосныя! Мы – зычныя:
Беларускія сыны!
("З вясны да новае вясны")

**100 – з дня абвяшчэння незалежнасці Латвійскай Рэспублікі 18. 11. 1918 г.**

Хачу прыбоем наталіцца,
ступіць у райнісаўскі след.
("Суседу-сабрысу"

**100 – ад нараджэння Янкоўскага Фёдара Міхайлавіча** (21.09.1918 – 13.11.1989) – ваяра, пісьменніка, мовазнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, заснавальніка школы фразеалогіі.

Тут – будзіцеляў поўня,
Тут – радовішчы жыляцца.
Тут – пры дотыку промня
і Свабода раскрыліцца!
("Прамяністыя". Айчыннай інэлігенцыі XXI ст)

**95 – ад пачатку выпуску "Ластаўкі" - вучнёўскага часопіса Люцынскай дзяржаўнай беларускай гімназіі.** У 1923—24 гг. выйшла 9 нумароў пад рэдакцыяй К. Езавітава. Укладальн ікам выдання быў Пятро Масальскі.

На Дзінабург! Рубон! На крыжакоў!..
Праз попел і пясок хачу разгону,
каб выстраіць – для выслуху – калону
з аголеных безпамяцтвам вякоў.
("Гасцінец")

**95 – ад нараджэння Абалы Мірдзы, дачкі Эдуарда** (23.02.1923 - ... 2007) - доктара філалагічных навук, перакладчыцы з беларускай мовы, даследчыцы

латышска-беларускіх літаратурных сувязяў, укладальніцы "Беларуска-латышскага і латышска-беларускага слоўніка". Навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры Латвійскай АН узнагароджана Дзяржаўнай прэміяй (1986). Узнагарода ад Беларусі – медаль Францыска Скарыны (2001).

**95 – ад нараджэння Пярловіча Самсона Георгіевіча** (13.08.1923 – 14.12.2001) – паэта, журналіста, удзельніка падпольнага наваградскага Саюза Вызвалення Беларусі (СВБ), асуджанага ў 1947 г. на 10 гадоў зняволення.
У часы нямецкай акупацыі на прымусовых работах знаходзіўся ў партовай Лібаве (Ліепая), потым у Аўстрыі.

**95 гадоў Памяці пра Харлапа Яна Восіпавіча** (21.08.1871 – 18.03.1923) - заснавальніка ў Латвіі Беларускага культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына" 25.03.1921 г.

**95 – з часу пераводу ў Рыгу ў 1923 г. Беларускіх дзяржаўных настаўніцкіх курсаў, якія дзейнічалі ў Дзвінску з 28.07.1921 г.** Кіраўнікамі курсаў у розны час былі А. Родзька, М. Дзямідаў, С. Сахараў, Г. Плыгаўка, Я. Шчорс, П. Жэрдзі. Сярод навучэнцаў – У. Жылка, П. Масальскі, Э. Вайвадзіш, В. Казлоўская, П. Міраповіч, А. Салаўёў, М. Калінін, В. Вальтар, Я. Камаржынскі… З лютага па чэрвень 1922 г. на курсах у Дзвінску выкладаў Максім Гарэцкі.

**95 – Люцынскай дзяржаўнай беларускай гімназіі** (адкрыта 1.08.1923 г.)
Люцынская прыватная беларуская гімназія заснавана 1.09.1922 г.

**90 – "Беларускаму календару"** С. П. Сахарава. Выданне Бел-га Прасьветнага кааператыву "Культура і праца", 1928 г.

**90 – выданню казачнай феерыі "На Полацкім замчышчы" Вольгі Сахаравай.**
П"еса напісана паводле матываў паэмы Янкі Купалы "Сон на кургане".

Маладое тчэцца ранне.
Сам Купала – павяртанне
да адпомнення-змагання.
("На Купалавым кургане")

**90 – Таварыству беларускай моладзі ў Латвіі.** Створана ў 1928 г. пры ўдзеле Пятра Журкоўскага,Веры Бялінскай, Язэпа Каялы. З 1932 г. старшынём Цэнтральнага праўлення т-ва быў Пятро Масальскі.

**90 – Беларускаму Народнаму Тэатру на Чырвонай Дзвіне** (Сімонаўская вул. 16). Адкрыты 24.03.1928 г. пастаноўкай п"есы Янкі Купалы "Паўлінка" (рэжысёр Ян Шабэрт; ролю Паўлінкі выконвала Надзея Мікалаева, Пранцыся – Мікола

Трубецкі, Альжбеты – Параскева Раманоўская).

Для нашай нацыі Купала -
скрыжальнай кронаю:
галінка кожная гучала
зязюляй роднаю.
(“Ёсць жа яшчэ ў мяне вера…”)

**90 – ад нараджэння Юркі Станкевіча** (18.03.1928, Вільня – 7.08.2014, Прага) – сябра Рады БНР, заснавальніка ў Празе суполкі “Пагоня”, выдаўца часопіса “Крывія”.

Вякі прасявалі мякіну-палову.
Я ў стоптаным жыцце жывы напалову:
направа, налева лажылі галовы.
Да трэці мы ў згубе, а то да паловы.
(“Крэўская муроўка”. Юрку Станкевічу)

**90 гадоў Памяці пра Пётру Антонавіча Крачэўскага** (7.08.1879 – 8.03.1928) – палітычнага дзеяча, гісторыка, трэцяга старшыні Рады БНР. 90 гадоў таму стварыў Беларускі загранічны архіў у Празе, дамогся стыпендыяў для беларускіх студэнтаў, выдаў альманах “Замежная Беларусь”. Пахаваны на Альшанскіх могілках .

У Празе не да сну:
зямная вось скрыгоча…
Да Стрэчання ідзе вясны прамень.
(“На радзіме Кнігі”)

**85 – першаму выпуску Рыжскай д-ра Францішкі Скарыны Беларускай гімназіі Т-ва Беларускіх вучыцелёў** (1932-1933 гг.) Дырэктар Родзька Аляксандр Захаравіч, яго калегі К. Езавітаў, С. Сіцько, Ф. Клагіш, П. Масальскі, Я. Шчорс, А. Кастылюк, Я. Доўгая... Пазней існавала Вячэрняя Рыжская Беларуская прыватная гімназія на вул. Вялікая Маскоўская, 173.

Палон палонкі і ярма вякі паскручваў…
Апроч Скарыны і няма, хто б сэрца мучыў…
(“Жнівень. Спас. Знічка”)

**85 – Ніне Янсанэ** (дзявочае прозвішча Панізьнік). Нарадзілася 21.11.1933 г. У Рызе – з 1951 г. З 1998 г. – грамадзянка Латвіі. Пераклала на беларускую мову латышскія народныя казкі, творы Яніса Райніса, Саўлцэрытэ Віесэ, Андрыса Веяна, Матыльды Езавітавай, Вілберта Краснайса, Кастусёнка (К. Езавітава), Айі Лацэ і інш. Дапамагала Мірдзе Абале ў падрыхтоўцы слоўніка. Яе пераклады друкаваліся

ў штогодніку "Ветразь", часопісе "Вожык", газетах "Наша слова", "Набат"…Валодае багатымі ведамі пра свой радавод, краязнаўчымі асаблівасцямі роднага Прыдзвіння.

Сястра, зажурынка мая, і мне ты кладачкі масціла.
Вясной пакормім салаўя, каб сонца па зямлі хадзіла.
("Там сонца па зямлі хадзіла")

**85 – ад нараджэння Львовіч Майі Давыдаўны** (23.04.1933 – 13.07.2015) – паэта, празаіка, перакладчыцы. Пісала на украінскай, беларускай мовах.

Майя Львовіч (19.07.2003):
А там, дзе дарога вузкая,
Беларусь – Беларуская?

**80 гадоў Памяці пра Тамаша Грыба** (19.03.1895 – 25.01.1938) – доктара філасофіі, палітычнага і грамадскага дзеяча, міністра унутраных спраў БНР . З 1922 г. у Празе, загадвае Беларускім замежным архівам, стварае Крывіцкае культурнае таварыства імя Ф. Скарыны

**80 гадоў з дня расстрэлу Тарашкевіча Браніслава Адамавіча** (20.01.1892 – 29.11.1938) – моваведа, перакладчыка, акадэміка, стваральніка першай "Беларускай граматыкі для школ". Леанід Маракоў адзначыў, што Б. Тарашкевіч загінуў падчас катаванняў, якія доўжыліся дзевяць месяцаў.

Не гузікі, папружкі
шукаю ў тле ахвяраў, -
раструшчаныя дужкі
ягоных акуляраў.
("Браніслаў Тарашкевіч")

**80 гадоў Памяці пра рэпрэсаванага Аркадзя Смоліча** (29.09.1891 – 17.06.1938) – вучонага, аўтара падручніка "Геаграфія Беларусі". Ён адзін з ініцыятараў стварэння БНР. Ахвяра таталітарнай сістэмы. У ліку ста з лішнім навукоўцаў, грамадска-палітычных дзеячаў і пісьменнікаў арыштаваны 26.06.1930 г. Паўторна арыштаваны 18.06. 1937 г. Расстраляны ў Омскай турме.

**80 гадоў Памяці пра Тэраўскага Уладзіміра Васільевіча** (23.11.1871-10.11.1938) – кампазітара, фальклярыста, дырыжора. Расстраляны ў мінскай турме НКУС.

Быў гулагаў мацярык
зрынуты у рвы-траншэі:
рвалі там ахвяраў крык, -

бо і душы іх – мішэні.
(“На радзіме Яна Скрыгана”)

**80 гадоў Памяці пра расстраляную “шпіёнку латвійскай разведкі” Шапіру Валянціну Герасімаўну**, беларускую паэтэсу Валянціну Казлоўскую – Лясную Кветку (19.08.1907-31.03.1938).

Не знікла праз расстрэл той сакавіцкі.
Сышла ў зямлю суровая вясна?
…Паболее ля Кветачкі травіцкі -
Крывіцкая успыхне баразна!
(“Творца-абаронца”)

**80 гадоў таму** Цанава быў прызначаны наркамам унутраных спраў БССР. У дакладной запісцы Берыю паведамляў: “Цэнтральнымі фігурамі нацыяналістычнай фашысцкай арганізацыі ў Беларусі на гэты час з”яўляюцца Якуб Колас і Янка Купала”. У справе пад загалоўкам “Фашысты” былі пазначаны таксама Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў… Цанава паводле загаду Берыі быў арыштаваны і загінуў у турме. Сам былы генеральны камісар дзяржбяспекі Берыя быў абвінавачаны у арганізацыі масавых “сталінскіх рэпрэсій” і расстраляны 23.12.1953 г. Мікаян Анастас (25.11.1895 – 21.10.1978) – былы старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР сваю службовую дзейнасць пазначыў так: “Усе мы былі тады мярзотнікамі”.

**80 – Вячку Целешу** (нар. 25.09.1938 г.) - мастаку, педагогу, даследчыку біяграфій выдатных дзеячаў мастацтва і культуры, выдаўцу, філакартысту, краязнаўцу… 60 гадоў жыве ў Латвіі. У 1975 г. скончыў жывапісна-педагагічнае аддзяленне Латвійскай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў імя Т. Залькална. У 1988 г. паспрыяў узнікненню т-ва “Сьвітанак”. Быў дырэктарам першай беларускай школы ў Латвіі. 12.01. 1991 г. заснаваў Аб”яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар”.. Яго карціны – у музеях 17 краін свету. За заслугі перад Латвіяй узнагароджаны ордэнам Трох Зорак.

Вячка! Дружа! Жменю ружаў
Пасылаю праз прасцяг.
Будзь жа дужы, як наш Сцяг.
З вераснёвых новых дзей
Маеш гонар! Маладзей!
(“На палітру Вячкі Целеша”)

**75 гадоў Памяці пра Аспазію** (Эльзу Розенберг) – пісьменніцу, жонку Я. Райніса. Даты яе жыцця: 16.03.1865 – 5.11.1943.

**75 гадоў Памяці пра Васіля Захарку** (1.04.1877-14.03.1943) - публіцыста, другога старшыні Рады БНР. Успаміны К. Езавітава "Васіль Захарка – змагар за беларускую дзяржаўнасць" друкаваліся ў газ. "Раніца" (№ 38, 1943 г.)

Асмяглай памяці каток -
тры рыскі: кожная кідок - на камяніцы…
І бел-чырвона-белы ток
між нас іскрыцца.
("Напруга нязменнага току")

**75 гадоў таму, у верасні 1943 г. адбыліся гастролі ў Латвіі спевака з Прагі Міхася Забэйды-Суміцкага** – у Рызе, Даўгаўпілсе, Краславе, Індры, Лудзэ, Зілупэ, Пасіене. Акампаніятарам была настаўніца І-й Рыжскай беларускай школы Вольга Васільеўна Бароўская, жонка У. Пігулеўскага. Даты жыцця Забэйды: 14.06.1900 – 21.12.1981 гг.

Яшчэ запяе нам Забэйда-Суміцкі!
Над матчынай квартай абсыпецца гром.
Збярэцца раса ля самотнай сунічкі,
Напоўніцца кварта жывым серабром.
("Келіх Забэйды")

**75 гадоў таму, у 1943 г. у Латвіі налічвалася 48 601 беларусаў.** Іх абарону здзяйсняў Беларускі нацыянальны камітэт; узначальваў яго К. Езавітаў, намеснікам у Рызе быў Пётра Міраповіч, у Даўгаўпілсе – Язэп Гайлевіч. Пры Цэнтральным праўленні камітэта працавала Навуковая секцыя з аддзяленнямі ў Рызе і Даўгаўпілсе. Пётра Міраповіч выконваў абавязкі і рэферэнта па справах беларускіх школаў у Генеральнай дырэкцыі адукацыі і культуры самакіравання.

**75 – Валеру Дзевіскібу** (25.11.1943-19.10.2001) - рыжскаму "мастаку з беларускай душой", як яго назваў Вячка Целеш. Нарадзіўся ў Нямеччыне, куды была вывезена гітлераўскімі акупантамі яго мама. Выратавала іх ад смерці польская сям"я. У 1979 г. акварэльныя працы жыхара Рыгі былі на Восеньскай выставе юрмальскіх мастакоў. У 1980 г. – на Латвійскай экспазіцыі Усесаюзнай мастацкай выставы ў Маскве. Разам з В. Целешам быў удзельнікам рэспубліканскай выставы ў Мінску, прысвечанай 500-годдзю Міколы Гусоўскага (1980). Першая персанальная выстава В. Дзевіскібы адбылася ў Зялёнай зале Малой гільдыі 13.12.1990 г. Другая – таксама дзякуючы стараннням В. Целеша – у Доме работнікаў мастацтваў 10.01.1991 г. Былі высока ацэнены партрэты Міколы Гусоўскага, Францішка Багушэвіча, Міхала Клеафаса Агінскага, Кастуся Каліноўскага, Францішкі Скарыны, Максіма Багдановіча…Для ўстаноўкі помніка на магіле Валеры пад Гомелем (з Рыгі

параехаў у Новую Мільчу) на адрас яго жонкі былі высланы грашовыя сродкі – наўзамен атрыманых імі на памяць карцін мастака В. Дзевіскібы.

**75 гадоў ад пачатку Асвейскай трагедыі.** 15.02.1943 г. у прамежку Асвея - Дрыса – Себеж – Расоны пачалася карная антыпартызанская аперацыя пад назвай “Зімнія чары”. Кіраваў знішчэннем вёсак і людзей обергрупэнфюрэр Ф. Эккельн. Тое, што было з ацалелымі сведкамі, напісана ў кнігах С. Панізьніка: “Пасля вогненных вёсак…”, “Браніслава”, “Освейская трагедия: Книга народной памяти”.

Чую з веснавога голля -
б”ецца сэрцаў метраном.
…Ну а Памяць, Праўда, Воля
паглынаюцца ў разлом…
(“Рэквіем па ахвярах Асвейскай трагедыі»)

**60 гадоў Памяці пра Уладзіміра Пігулеўскага** (10.03.1889 – 17.06.1958) - пісьменніка, перакладчыка. Удзельнічаў у рабоце Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі ў Рызе (1920). Там жа ўзначальваў Кансулат пры Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. З 1922 г. – на сталым жыхарстве ў Латвіі. У 1924 г. абраны ў Сейм. Працаваў выкладчыкам Дзвінскай і дырэктарам Люцынскай беларускіх гімназій. У 1927 г. прызначаны кіраўніком Упраўлення беларускіх школаў пры Міністжрстве асветы Латвіі. Ссылку пасля арышту адбываў у Ліепайскім лагеры. У 1940-41 гг. быў інспектарам Міністэрства асветы Савецкай Латвіі. Друкавацца пачаў у Люцыне (1924). У 1949 г. пераклаў на латышскую мову “Паўлінку” Янкі Купалы.

**60 – ад нараджэння Леаніда Маракова** (15.04.1958 – 17.12.2016) - гісторыка, пісьменніка, журналіста, даследчыка гісторыі сталінскіх рэпрэсій. Аднавіў біяграфіі больш як 20 тысяч грамадскіх і культурных дзеячаў (у тым ліку і былых жыхароў Латвіі).

Імёны катаў акаяных на свет выводзіць Леанід.
Боль Беларусі – акіянны, але пад намі ёсць граніт.
І змог ён, змог сарваць супоні са схронаў: з намі праўды ніць!
…Яго напорыстай пагоні цяпер нікому не спыніць.
(“Вершнік”)

**60 гадоў з часу рэабілітацыі 27.02.1958 г паэта, крытыка, перакладчыка, рэжысёра Юркі Гаўрука** (6.05.1905 – 18.02.1979). Быў арыштаваны 8.02. 1935 г. і асуджаны за “антысавецкую агітацыю”. Больш за 20 гадоў працаваў у Карэліі, Усходняй Сібіры, Комі АССР. Аўтар першай на Беларусі анталогіі паэтычных перакладаў “Кветкі з чужых палёў” (1928).

Каралішчавічы – у лагодзе.
Яшчэ моцны быў поціск рук.
Ён пайшоў…Але зноў – пры нагодзе -
так сібірна гучыць: “Гаўрук…”
(“Сын Урагану”)

**50 гадоў ад пачатку акупацыі Чэхаславакії .** Аперацыя “Дунай” па ўводу савецкіх войскаў і войскаў краінаў Варшаўскай дамовы пачалася 21. 08. 1968 г. Вывад войскаў праходзіў да 1991 г.

А на здані, што прыджгалі,
млувілі: -- Ня спудзімся!
Сто гадоў мы вас чакалі,
дзвесце – не забудземся.
(“Мілавіца над Лабаю”)

**45 гадоў ад выхаду кнігі Алеся Звонака “Неспакойныя сэрцы”** з літаратурнымі партрэтамі, згадкамі пра Купалу, Коласа, Чарота, Гурло, Александровіча, Дудара, Броўку, Галубка… Многія з герояў яго кнігі пацярпелі ад інквізітараў за так званую нацдэмаўшчыну. Сам Пётр Барысавіч Звонак (14.02.1907 – 2.02.1996) – паэт, драматург, перакладчык, тэатразнаўца правёў пад арыштам у 1936 г. 12 месяцаў. 10 гадоў адбываў пакараннне за прыдуманую яму правіну ў лагерах на Магадане і 10 гадоў на залатаносных прыісках Поўначы.

Калі ж раструшчым той арэх,
дзе спіць непрабачальны грэх
Масквы, Крамля, Правадыра?
…У страху ломкая кара.
Для кары знойдзецца прарэх.
“На крылах выраю”)

**40 гадоў Памяці пра Вінцука Адважнага** – псеўданім Германовіча Язэпа Станіслававіча (4.03.1890 – 26.12. 1978) – паэта, празаіка, перакладчыка, рэлігійнага дзеяча.

Словы паэтаў гучалі з-за kратаў,
з вежы прарока, з ГУЛАГаўскіх ссылак…
Сёння усіх нас чакае э р а т а --
час выпраўлення гаротных памылак.
(“Errata”)

**30 – Латвійскаму таварыству беларускай культуры “Сьвітанак”.** Заснаванае 27.11.1988 г. У кастрычніку 1988 г. на Устаноўчым сходзе Народнага фронту Латвіі

пісьменнікам Янісам Петэрсам была выказана падтрымка беларусам у стварэнні нацыянальных культурна-асветных арганізацый.

Прытуліцца змаглі, ўкараніцца, -
вольнай Латвіі цешаць агні.
Узышла над "Сьвітанкам" дзянніца -
абярэга спрадвечнай радні.
("Auseklis /дзянніца/ над Рыгай")

**30 гадоў ад пачатку экалагічнай экспедыцыі "Мір планеце, здароўе і моц зямлі!"** (17.05.—30.05. 1988). Ініцыятар правядзення пісьменнік Васіль Якавенка. Вучоныя, літаратары Беларусі, Латвіі, Расіі прайшлі ад вытока Зах. Дзвіны да вусця Даўгавы, даследуючы стан экалогіі, помнікаў гісторыі і культуры…Латвію прадстаўлялі Айя Лацэ, Артурс Сніпс, Эгілс Зірніс, Юрас Кунас. Падарожнікі наведалі Андрыянопаль, Веліж, Віцебск, Полацак, Дрысу (Верхнядзвінск), пад Бігосавам этнаграфічны музей "На Шляху з Грэкаў у Варагі", Друю, Краславу, Даўгаўпілс, Крустпілс…Акцыя творцаў розных нацыянальнасцяў у абарону сваёй зямлі, яе скарбаў, культурнага асяроддзя ў басейне Дзвіны-Даўгавы прайшла паспяхова.

І па Юрмале не стыне бяссьледдзе…
Мама сыну варажыла: --Прыедзе!
("Мама сыну варажыла")

**25 гадоў таму была прынята ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Аўгіння Кавалюк** (13.03.1934—2.11.2007)—паэтэса, перакладчыца, педагог. 28 гадоў творчага жыцця аддала Латвіі. У яе творчай спадчыне пераклады вершаў Мірдзы Кемпэ, Іманта Зіедоніса, Ояра Вацыетыса, Руты Вэнты, Зіеданіса Пурвса…З 1987 г. жыла ў С.Пецярбургу.

**25 гадоў таму ў Даўгаўпілсе адбыўся Устаноўчы сход таварыства "Латвія – Беларусь".** Арганізацыю ўзначаліла Інара Муканэ.

**25 гадоў Памяці пра Надзею Мікалаеву-Комісар** (17.09.1907—6.10.1993) – першую выканаўцу ролю Паўлінкі ў камедыі Янкі Купалы.

**25 –таварыству імя Ф. Скарыны "Прамень" у Рызе і культурна-асветнаму аб"яднанню "Уздым" у Даўгаўпілсе.**

**20 гадоў таму была закладзена ў Рызе Беларуская школа ў складзе 5 класаў.** Арганізатар і першы дырэктар яе Вячаслаў Целеш. Зараз дырэктарам Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы працуе Іванэ Ганна Уладзіславаўна, узнагароджаная ў 2017 г. медалём Францыска Скарыны.

Сябры! Суседзі! Свэйкі, сваякі!
Нас лучаць хвалі Даўгавы-ракі,
а вашы сэрцы – долі маякі!
(“Беларусам Латвіі”)

**20 гадоў таму Прэзідэнт Латвійскай дзяржавы Г. Улманіс падпісаў** пастанову аб узнагароджанні вышэйшай дзяржаўнай адзнакай – ордэнам Трох Зорак групы людзей, у тым ліку і беларускіх пісьменнікаў Васіля Сёмухі і Сяргея Панізьніка. Рыгор Барадулін (дзякуючы старанням Мірдзы Абалы) таксама атрымаў званне Афіцэра ордэна (4 ступені) за асаблівыя заслугі перад Латвіяй. Народны паэт прызнаваўся: “Мне Латвія асабліва дарагая і блізкая, бо мой дзед Андрэй Галвіньш, механік млыноў, трапіў у Полацак з Рыгі”. Рыгор Іванавіч пераклаў “Вей ветрык” Я. Райніса, супрацоўнічаў з паэтамі В. Ліўзэмніекам, Я. Сірмбардзісам, Е. Стулпанам…

Няма для дружбы прышлых!
Жыццё вяло свой рэй,--
бо Грышка быў як шышка,
Андрэй за ўсіх мудрэй.
(“Стырно і млён”)

**15 гадоў таму выдадзена кніга, якая выяўляла мацярык беларускай духоўнасці ў суседняй краіне - “Крывіцкія руны:** Беларускія пісьменнікі Латвіі” (Мінск, “Беларускі кнігазбор”. 2003 г. Укладанне і прадмовы Сяргея Панізьніка. Рэдактар Міхась Скобла. Пазней з”явіліся “кнігазбораўскія” “Выбраныя творы” Віктара Вальтара ( 2009 г.), Вольгі і Сяргея Сахаравых (2015 г.), Пятра Сакола і Валянціны Казлоўскай ( 2016 г.),”Крывіцкія руны-2: Беларускі культурны мацярык у Латвіі” (2017 г.) Укладанне, прадмовы, каментары Міхася Казлоўскага пры супрацы з Сяргеем Панізьнікам.

Міхась жыве пад звонам. Не з роду асначоў,
а кніжным плытагонам ён славіць крывічоў.
Шчаслівей, Маладзечна, ў абдоймах Міхася.
Хай стане Кнігай Вечнай і Беларусь уся!
(!Веставы”. Міхасю Казлоўскаму)

Да выяўленых памятных датаў далучыў радкі сваіх вершаў Сяргей Панізьнік.

**Siargei Paniznik: Calendar for 2018 with the verses of the author**
***(magazine "CULTURE, NATION", March 2018, issue 21, p.56-78,***
www.sakavik.net ***)***

No doubt, the issue is quite interesting in the calendar-2018 by Siargei Paniznik. This time, our famous poet prepared unusual Belarusian calendar where the events reflected therein, accompanied by verses of our famous poet.

*Дадатак*

**Спіс кніг, напісаных рознымі пакаленьнямі канадыйскіх беларусаў, прадстаўленых на выставе ў гонар 100-годдзя БНР.**

**11 сакавіка 2018 года. Commons Reading Room, Parliament Hill, Ottawa, Canada**

**Выстава арганізавана сябрамі БІНІМа.**
**Кнігі з калекцыі І. Сурвіла і П. Мурзёнка.**
**У арганізацыі выставы і прэзентацыі кніг прымалі ўдзел**
**Ксенія і Аляксандр Каралькевічы, Пётра Мурзёнак.**






Ян Садоўскі “**Гісторыя беларусаў у Канадзе”.** Бельвіль, Антарыё, 1981. 148 с. Пасля кароткага апісаньня гісторыі і культуры Беларусі ў кнізе прыводзяцца вынікі даследаваньняў аўтара аб эміграцыі беларусаў у Канаду ў 18-20 стст.

John Sadouski “**A History of the Byelorussians in Canada”.** Belleville, Ontario. 1981. 148 p. A brief description of Belarus, its history and culture, is followed by a study of the history of Belarusian emigration to Canada in 18-20 cc.




Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель **“Беларуская дзяржаўнасць”.** Н’ю-Ёрк, 1988. 398 с. Шэраг артыкулаў пра шляхі беларусаў да дзяржаўнасці, пра БНР, БССР, і барацьбу за дэмакратыю.

Vitaut Kipel, Zora Kipel **“Belarusian Statehood”.** New York, 1988. 398 p. Reader and Bibliography. A number of articles about the ways of Belarusians to statehood, about BNR, BSSR, and struggle for democracy.




Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч **“Гэта краіна завецца Беларусь”.** Kalligram, 2013. 324 с. Ілюстраваная гісторыя Беларусі, пачынаючы ад перыяда неаліту да нашых дней.

U. Arlou, Z. Hierasimovic **“This Country Called Belarus”.** Kalligram, 2013. 324 p. Illustrated History of Belarus starting from Neolithic period to our days.



Івонка Сурвіла **“Дарога. Стоўпцы - Капенгаген – Парыж – Мадрыд –Атава –Менск”.** Радыё Свабода, 2008. 144 с. Кніга “Дарога” апавядае гісторыю жыцьця ў пяці краінах сёмага Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы.

Ivonka Survila **“The Path”.** Radio “Liberty”, 2008. 144 p. The book tells the story of life in five countries of seventh President of BNR Rada IvonkaSurvila.




Івонка Сурвіла **“У восем год я пайшла на вайну”.** Н’ю-Ёрк, 2011. 58 с. У кнізе апісана успрыняцце вайны маленькай беларускай дзяўчынкай, якая была вымушана эміграваць у 1944 годзе з Баранавіч, праз усю Еўропу, у Данію і нарэшце ў Францыю.

Joanna Survila **“A huit ans j’aifait laguerre”.** New York-Ottawa-Toronto, 2011. 58 p. The book describes the perception of the war by a little girl who was forced to emigrate in 1944 from Baranovichi (Belarus), through Europe, to Denmark and finally to France.




Раіса Жук-Грышкевіч **“Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча”.** Таронта, 1993. 797 с. Кніга аб жыцьці і дзейнасьці Старшыні Рады БНР В. Жук-Грышкевіча (1903-1989), пра дзейнасць беларускай эміграцыі ў Канадзе і ЗША.

Raisa Zuk-Hryshkevich**“The life of Vincent Zuk-Hryshkevich”.** Toronto, 1993. 797 p. The book about the life and activities of the President of BNR Rada, V. Zuk-Hryshkevich (1903-1989), and activities of Belarusian diaspora in Canada and the USA.




Барыс Рагуля **"Супраць цячэння".**
Манрэаль, 2005. 185 с. Па словах аўтара – гэта кніга аб тым "... як я рос, змагаўся і выжыў у краіне, якая да гэтага часу застаецца незразумелай і забытай у працах, прысвечаных еўпарейскай гісторыі і культуры".

Borys Ragula **"Against the Current".**
McGill University Press. 2005, 185 p. As author mentioned this book is about "… how I grew up, struggled, and survived in a country that remains largely misunderstood or overlooked in the annals of European cultural and regional history".




Валянціна Пашкевіч **"Беларуская мова"** ў двух тамах. Пад рэд. А. Адамовіча. Торонто, 1974. Граматыка, заснаваная на прынцыпах, распрацаваных беларускім лінгвістам Б. Тарашкевічам.

Valjantsina Pashkevich **"Fundamental Byelorussian".** Book 1. Book 2. The grammar in "Fundamental Byelorussian" is based on that of the eminent Byelorussian linguist B. Tarashkevich.




Язэп Малецкі **"Пад знакам Пагоні".**
Выдавецтва "Пагоня". Таронта, 1976. 201 с. У сваіх успамінах аўтар апісвае падзеі на бацькаўшчыне падчас другой Сусьветнай вайны, вялікі ўздым народа ў змаганьні за свае правы і яго працу над адбудовай вольнага жыцьця.

Jazep Malecki **"Under the sign of Pahonja".**
Toronto, 1976. 201 p. In his memoirs, the author describes events at home during the Second World War, the great rise of nation in the struggle for their rights and its work on the restoration of a free life.




Марыя Ганько **“Каб сведчылі пра Беларусь”.** Мінск, “Кнігазбор”, 2005. 192 с. Укладаньне Вольгі Іпатавай. Кніга ўспамінаў пра свайго мужа, Міколу Ганька (1924-1999), аднаго з заснавальнікаў і старшыню Згуртаваньня беларусаў Канады.

Maria Ganko**"To Bear Witness about Belarus"**. Minsk,"Knihazbor", 2005. 192 p. Editor, Wolga Ipatava. Memoires about her husband, MikalajGanko (1924-1999), one of the founders and chairman of the Belarusian CanadianAlliance.




Вольга Грыцук**“Мы стварaлі сваю Беларусь”.** Мінск, “Медісонт”, 2007. 256 с. Укладаньне, літапрацоўка Вольгі Іпатавай. Кніга ўспамінаў пра жыцьцё і дзейнасць Аляксея Грыцука, даследчыка беларускай літаратуры і гісторыі.

WolgaGrytsuk**“We created our Belarus”.** Minsk, "Medisont", 2007. 256 p. Editor, Wolga Ipatova. Memories about life of AlexeiGrytsuk, researcher of the Belarusian literature and history.




Пётр С. Мурзёнак **“Адвечныя плыні”.** Мінск, “Кнігазбор”, 2015. 240 с. Кніга прозы ўключае расказы для дзяцей, навелы, повесці і апавяданні пра жыццё беларускай вёскі, а таксама нататкі пра жыцьцё ў Канадзе.

Piotr S. Murzionak **"Eternal flows".** Minsk, "Knihazbor", 2015. 240 p. Book of prose includes stories for children and short stories about life of Belarusian village, as well as notes about life in Canada.




Пётр С. Мурзёнак **“Над Дзісенкай ракой”.** Аттава. 2008. 338с. У сваіх успамінах аўтар апісвае жыцьцё ў тыповай вёсцы Заходняй Беларусі у міжваенны час, 2-ю сусьветную вайну, гады службы ў савецкай арміі, працу ў школе і быт сям’і настаўнікаў вясковай школы.

Piotr S. Murzionak **"Over the Disenka river".** Ottawa, 2008. 338p. In his memoirs, the author describes the life of a typical village in Western Belarus in the interwar period and during the World War II, years of service in the Soviet army, work and life of rural school teachers’family.




Сяргей Панізьнік **“Абліччы сустрэчаў”.** Мінск, “Медысонт”, 2017. 144 с. Нататкі пра пісьменнікаў, навукоўцаў і дзеячаў культуры, з якімі аўтар асабіста сустракаўся.

Siargei Paniznik **"Faces of meetings".** Minsk, "Medisont", 2017. 144 p. Notes about writers, scientists and artists with whom the author met personally.




Сяргей Панізьнік **“Выбранае”.** Мінск, “Тэхналогія”. 2017. 215 с. Паэзія “за паўстагоддзя творчай працы”.

Siargei Paniznik **“Favorites”**. Minsk, “Technologia”, 2017. 215 p. Poetry –“Half a Century of Creative Work”.




Сяргей Шупа **“Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі”.** Том I. Кніга 1. Вільня – Н’ю-Ёрк – Менск – Прага. 1998. 850с. Матэрыялы і дакументы датычныя Беларусі ад 1835 года да жніўня 1920 года уключна з дзейнасцю урадаў БНР пад кіраўніцтвам А. Луцкевіча і В. Ластоўскага.

SjargeiShupa**"Archives of the Belarusian Democratic Republic".** Volume I. The Book 1. Vilnja - New York - Minsk - Prague. 1998. 850p. Materials and documents relating to Belarus from 1835 to August 1920 inclusive, with the BNR Government actions under the guidance of A. Lutskevich and W. Lastousky.




Сяргей Шупа **“Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі”.** Том I. Кніга 2. Вільня – Н’ю-Ёрк – Менск – Прага. 1998. Ст. 850 – 1721. Матэрыялы і дакументы ад жніўня 1920 года да студзеня 1939 года.

SjargeiShupa**"Archives of the Belarusian Democratic Republic."** Volume I. Book 2. Vilnius - New York - Minsk - Prague. 1998. Pp. 850 - 1721. Materials and documents from August 1920 to January 1939. Fund #582 “Council of Ministers of the Belarusian Democratic Republic”. The State Museum of Lithuania.




Кастусь Акула **“Гараватка”.** Трылогія.

Кніга першая: “Дзярлівая птушка”.Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1965.

KastusAkula**"Garavatka".**Trilogy.

Book One: "Cryingbird". Publisher "Pahonja", Toronto, 1965.




Кастусь Акула **“Гараватка”.** Трылогія.

Кніга другая: “Закрываўленае сонца”. Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1974.

Kastus Akula**"Garavatka".** Trilogy.

BookTwo: "SuninBlood". Publisher "Pahonja", Toronto, 1974.




Кастусь Акула **“Гараватка”.** Трылогія.

Кніга трэцяя: “Беларусы, вас чакае зямля”. Выдавецтва “Пагоня”, Таронта, 1981. Памяці змагароў, што ахвяравалі жыцьцё за волю Беларусі.

KastusAkula**"Garavatka".**Trilogy.

Book Three: "The Belarusians, the land is waiting for you". Publisher "Pahonja", Toronto, 1981. In memory of the fighters that sacrificed their lives for freedom in Belarus.




Кастусь Акула **“Змагарныя дарогі”.** Мінск, “Мастацкая літаратура”, 1994. Раман апісвае лёсы беларусаў напрыканцы 2-й сусьветнай вайны і непасрэдна пасля яе, калі яны былі вымушаны пакідаць сваю радзіму і знаходзіць свае далейшыя шляхі.

Kastus Akula**"Road of fighting".** Minsk, "Literature", 1994. The novel describes the fate of Belarusians at the end of the World War II and immediately after it, when they were forced to leave their homeland and to find their further paths.




Кастусь Акула**“Заўтра ёсць учора”.** Мінск, “Медысонт”, 2008. 200с. Вострасюжэтны раман аб складаным лёсе беларускай жанчыны на фоне гістарычных падзей у Беларусі часоў 2-й сусветнай вайны. Цудам выжыўшы пасля двух растрэлаў – немцамі і партызанамі – апынаецца ў Канадзе, дзе сустракае забойцу сваёй сям’і.

Kastus Akula **"Tomorrow is yesterday".** Minsk, “Medisont”, 2008. 200p. Novel about the fate of the Belarusian woman against the backdrop of historical events in Belarus, the World War II. Miraculously surviving after two shootings - the Germans and partisans – she is in Canada, where she meets her family's killer.




Ірына Варабей **“Там дзе сэрца маё”.**
Мінск, “Кнігазбор”, 2005. 124 с. Публіцыстыка, пераклады, апавяданні, прысвечаныя дзейнасці беларускіх эмігрантаў у Канадзе, а таксама асэнсаванню жыцьця чалавека і Бацькаўшчыны.

IrynaVarabei**"There where my heart is".**Minsk, "Knihazbor", 2005. 124 p. Journalism, translations, stories on the activities of the Belarusian emigrants in Canada as well as the understanding of human life and the fate of homeland.




Юрась Пелюшонак **“Вачамі прусака”.**Аттава, 2003.144 с.Пра сацыялізм праз прасцейшую прызму.

Yuri Peliushonak**“Through the Eyes of a Coackroach”.** Ottawa, 2003. 144 p. About socialism via a simple prism.




Юрась Пелюшонак **“Струны для бас-гітары”.**Аттава, 2004. 180 с. Кніга пра моладзь з пакалення аматараў “theBeatles” у СССР.

Yuri Peliushonak**“Strings for a Beatle Bass”.** Ottawa, 2004. 180 p. This book is about youth, about “the Beatles” generation in the USSR.




Пётра П. Мурзёнак **“Крыніца”.** Вершы. Выдавец Зміцер Колас. Мінск, 2011. 144 с.

PiotraP. Murzionak**“Krynyca” (“Source”).** Poems. Publisher, Z.Kolas. Minsk, 2011. 144 p.




Пётра П. Мурзёнак **“Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам”.** Аттава, 2012. 314 с. У зборнік увайшлі вершы, паэмы,інтэрв’ю і запісы пра жыцьцё беларускай грамады ў Аттаве.

PiotraP. Murzionak **“Until ourAngels are Flying over the Ocean”.** Ottawa, 2012. 314 p. The collection includes poems, interviews and notes about the life of the Belarusian society in Ottawa.




Пётра П. Мурзёнак **“Шляхі да беларускай нацыі”.** Мінск, “Кнігазбор”, 2016. 344 с. Разглядаюцца праблемы развіцьця беларускай нацыі, ментальнасьці беларусаў, узаемаадносін нацыі і свабоды, царквы і нацыі ў Беларусі, абгрунтоўваецца існаваньне беларуска-украінскай цывілізацыі.

Piotra P. Murzionak **“The Ways to Belarusian Nation”.** Minsk, “Knihazbor”, 2016. 344 p. The problems of development of the Belarusian nation, the mentality of the Belarusians, the relationship of nation and freedom, church and the nation in Belarus are described as well the existence of the Belarusian-Ukrainian civilization is justified.




Пётра П. Мурзёнак **“Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу”.** Мінск “Кнігазбор”, 2017. 96 с. У кнізе падаецца 1000-гадовая гісторыя беларускага народа ў сціслай, даведачнай форме, з уключанымі картамі і табліцамі.

PiotraP. Murzionak**"What should be proud of every Belarusian"**.Minsk, “Knihazbor”, 2017. 96 p. In the book, a short history of the 1000-year existence of Belarusian ethnicityis presented. The book includes maps and tables.




Юрась Шамецька **“Шлях да вяртання”.**Мінск, “Кнігазбор”, 2011. 96 с. Вершы Юрася Шамецькі шматасацыятыўныя, шчырыя пачуццямі і думкамі, пашыраюць прастору беларускай паэзіі.

Yuri Chametka**"The Pathto Return".** Minsk, "“Knihazbor”", 2011. 96 p. Poems by Yuri Chametka, multi associative with sincere feelings and thoughts, expand the space of the Belarusian poetry.




Юрась Шамецька **“Атава”.** Вершы.
Мінск, “Кнігазбор”, 2015. 128 с.

YuriChametka**“Ottawa”.**Poems. Minsk, "“Knihazbor”", 2015. 128 p.




Вольга Іпатава **“Альгердава дзіда”.**
Мінск, “Беллітфонд”, 2002. 607 с. У кнізе – тры гістарычныя раманы часоў Вялікага Княства Літоўскага – “Залатая жрыца Ашвінаў”, Вяшчун Гедыміна”, і “Альгердава дзіда”.

Wolga Ipatava**“Algerd’sSpear”.** Minsk, "Bellitfond", 2002. 607 p. In thebook – three historical novels of the Grand Duchy of Lithuania "Golden Priestess Ashvinau",“Gedymin’s Magus" and" Algerd’s Spear".




Зіна Гімпелевіч **“Беларускія яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя”.** Цэнтр беларускіх даследаванняў. Канзас.257с. Кніга асвятляе важную частку вельмі разнастайнай культуры Беларусі.

Zina Gimpelevich **“Belarusian Jewish Writers of theTwentieth Century”.** Center of Belarusian Studies. Winfield, Kansas. 257p. The book shines new light on an important strand of Belarus’s very diverse culture.

**The List of Books by Prof. Z. Gimpelevich**

R. Gimpelevich, Z. *The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian literature* is in print by McGill-Queen University Press. The monograph (over 500 pp. +index, bibliography, and illustrations) is based on a unique history of Biełarusian literature in relation to a common livelihood of Christian and Jewish neighbours. Forthcoming summer, 2018.

R. Gimpelevich, Z. *Valentin Innokent'evichAnnenskii-Krivich: Literary Album with foreword and comments.* (St. Petersburg: Silver Age Press, 2012).

R. Gimpelevich, Z. *Vasil Букай: Books and Fate.* Moscow: NLO, 2011 (Russian).

R. Gimpelevich, Z. *Belarusian Jewish Writers of the Twentieth Century: Origin, History, and Discourse.* Winfield: Southwestern College Academic Press, 2010 (Belarusian/English).Click to see some reviews of experts.

R. Gimpelevich, Z. Vasil *Букай: His Life and Works.* Montreal: McGill-Queen's Press, 2005 (English).Click to see some reviews of experts.

R. Gimpelevich, Z. *What M. (millennium) is Out There?* Ottawa: Legas, 1991 (English). Click to see some reviews of experts.

R. Gimpelevich, Z. *Intelligent v romanakh DoktorZhivagoi Master i Margarita* (The Intelligentsia in the Novels Doctor Zhivago and The Master and Margarita) Orange, CT: Antiquary, 1988 (Russian).Click to see some reviews of experts.

N/R: Gimpelevich, Z., Karpiak, R., Szarycz I. *Basic Russian for Business. Textbook* (230 pp.) for DE students. University of Waterloo, 1999-2000.

**A list of books written by different generations of Canadian Belarusians presented at the exhibition in honor of the 100th anniversary of the BNR**
***(magazine "CULTURE, NATION", March 2018, issue 21, p.79-91)***

The exhibition is organized by the members of Belarusian Institute of Arts and Sciences in Canada (March 11, 2018; Commons Reading Room, Parliament Hill, Ottawa, Canada). Books are from the collections of J. Survila and P. Murzionak. The organization of the exhibition and book presentation was done by Ksenia and Alexander Karalkevich, and Piotra Murzionak.

*Наступны 22-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў чэрвені 2018 года*